Год II | Чацьвер, 12 студня 1922 г. | № 7 (16)

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2.
Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкаў высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымываца, то высылка газэты будзе затрымана.*

Кнтора газэты „Раніца" паведамляе, што магазынам выпісываючым газэту дзеля прадажы, кантора будзе рабіць 30 проц. уступкі.

## ТРЭБУЮЦЦА

хлопцы для прадажы газэты на ДОБРЫХ ВАРУНКАХ. Спытацца ў канторы газэты „Раніца".

*Вільня*, 12 *Студня 1922 г.*

Толькі што скончыўшыяся выбары ў Віленскі Сойм выявілі з нагляднай яснасьцю ня толькі адносіны тых ці іншых груп насяленьня Срадковай Літвы да Польшчы, але і адносіны розных партый адна да адной.

І трэба зазначыць, што амаль ня ўсе вёскі ахвотна няслі свае галасы да выбарных урнаў, маючы надзею, што прадстаўнікі іх будуць галасаваць у Сойме за далучэньне Віленшчыны да Польшчы. Варожая агітацыя агентаў Ластоўскага, эсэраў, маленькай групы Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, віленскіх літоўцаў і жыдоў—ня мела жаднага ўплыву на насяленьне. Цяпер можна с пэўнасьцю сказаць, што значная большасьць, амаль ня 80 проц. усяго насяленьня Срадковай Літвы, жадаюць далучэньня да Польшчы.

Пры палітычнай сытуацыі апошняга часу ў гэтым няма нічога дзіўнага, але вось што з'яўляецца заўсім незразумелым: гэта варожыя адносіны на выбарах амаль ня усіх польскіх партый да тых беларускіх груп, якія дамагаюцца разам з палякамі далучэньня Срадковай Літвы да Польшчы.

Аб гэтым сьведчаць нашы карэспадэнты. Напрыклад, адзін з іх піша: дзіўна усё-ж, што ўсе агітатары польскіх партый паміж сабой згаварыліся такі ў аднэй мэці—гэта агітаваць проці беларусаў. Якімі твькі назвамі яны ня абзывалі беларускіх інструктароў: і бальшавіцкімі агентамі, і літоўскімі, і жыдоўскімі наймітамі і т. д.

Другі карэспадэнт селянін пытае: „цікава, чаму усе агітатары польскіх партый агітавалі проці беларусаў? Чаму гэта так рабілася і робіцца? Ня ужо няма сярод лідараў гэтых польскіх партый, якія да нас пасылалі сваіх агітатароў, лепшае думкі аб беларусах? Чаму іхнія агітатары увесь час стараліся даказаць, што нас няма навет і на сьвеце?"

У чым жэш справа?

Гдзе закопана сабака?

Ці гэта простая неасьведамлённасьць партыйных агітатароў, якія навет ня ведаюць што робяць, не адлічаюць ваўка ад авечкі прыяцеля ад ворага?

Ці гэта партыйны фанатызм, гатовы прынясьці ў афяру інтэрэсаў сваей партыі, інтэрэсы гаспадарства.

Як бы там ні была, ўсё-ж гэта зьявішча рабіла вельмі кепскае ўражаньне на ўсіх сялян, якія ніяк не маглі зразумець, чаму беларус ня можа заставацца беларусам, чаму беларус павінен выбіраць у Сойм сваім прадстаўніком не беларуса?

Будзем спадзявацца, што гэта прыкрае з'явішча, мае ў сваёй падставе, не варожыя адносіны да беларускай нацыянальнасьці, і беларускай справы, а проста — захапленьне выбарнай барацьбой.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

ПАРЫЖ 11.1. (A. W. 9) На ўчарайшым паседжані Канфэрэнцыі ў Каннах прыняты праэкт Люшара стварэньня консорцыума з капіталам 2 міл. фунтаў стэрлінгаў з мэтай адбудовы гаспадаркі ў Расеі. Аснаўны капітал можа быць павялічыны, калі ў гэтым будзе патрэба.

БЭРЛІН 11. 1. (A. W.) Дэлегацыя нямецкая пад павадырствам Ратэнау выехала на канфэрэнцыю ў Канны.

ЛЕНДЫН 11. 1. (A. W. 9.) Павадыр ірляндскай дэлегацыі Орыфінт, прадназначаны на мейсца старшыні міністраў ірлянцкага габінету.

МАСКВА 11. 1. (A. W.) Чычэрын ад імя саветаў выразіў задаваленьне за запрашэньне на канфэрэнцыю народаў у Кане...

З Бэрліна даносяць, што ў склад дэлегацыі апроч Леніна вайдуць: Красін, Чычэрын і Ліцьвінаў.

ГДАНСК. 11.1. (A. W.) „Danz. Zeit." пішуць з Жэневы, што камісар Лігі Народаў гэнерал Гацкінг пакідае сваё мейсца, якое займе сябар сэкрэтарыату Лігі Народаў прафэсар Атотоліце.

## Да выбарау у Сойм.

Аб выбарах у Віленскі Сойм адтрыманы гэтакія весткі:

Ашмяна. Галасавала 75 пр. выбарщчыкаў.

Палучылі мандатаў: R. Lud. — 7. P. C. K. W. — 2; „Odrodz." — 1.

Гор. Вільня. Галасавала 43490.

| Картк. | Лік галасоў. | Сколькі манд, |
|---|---|---|
| 1 | 257 | 0 |
| 2 | 1879 | 0 |
| 3 | 35276 | 15 |
| 4 | 356 | 0 |
| 5 | 5116 | 2 |
| 6 | 2506 | 1 |

Г. Трокі: „Odrodz." палучыла 0—1 мандат; P. S. L. — 1—2 м. R. Lud. 2—3 манд., P. C. K. W. — 2—3 манд.

Г. Ліда галасавала 50 пр. выбарщчыкаў.

P. C. K, W. палуч. 8—9 мандат.
„Odrodz." „ 2—3 мандат.
P. S. L. „ 0—1 мандат.

г. Сьвенцяны галасавалі 50 проц.
P. C. K. W. . . . . . 2—3 манд.
P. S. L. . . . . . . . 2—3 манд.
R. L. . . . . . . . 4—5 манд.
„Odrodz." . . . . . . 3—4 манд.

* * *

м. Браслаў лік галасаваўшых у некатарых абводах даходзіў да 90 проц. у літоўскіх абводах, напрыклад у Рымшанах да 30 проц. получылі мандаты:
„Odrodz." . . . . . . 3—4 манд.
васковые лісты . . . . 6—7 манд.

*

З Камайскага і Васільскага вакругоў да учарашняга дня пэўных вёстак ня была атрымана.

## Весткі з Варшавы.

З ночы 11 студня істнуе граніца паміж Польшчай і Гданскам.

11 студня адбылося пасяджэньне Палітычнага Камітэту Рады Міністраў, на якім разгледжана справа уласнасьці Габсбургаў.

Начальнік Панства 11 студня падпісаў назначэньне Ігнацыя Шэбеко на мейсцо другога польскага дэлегата на час сэсіі Лігі Народаў.

Шэбека 12 студня павінен быў выехаць з Варшавы ў Жэневу.

На пасяджэньні Варшаўскага Сойму 10 студня разглядалася пытаньне аб вайсковай скужбе.

Прадстаўнік P. P. S. пасол Лібэрман заявіў ад імя P. P. S., што служба ў войску павінна быць зьменшана да 8 месяцаў. Партыя прадставіць Ураду ў гэтым сэнсу свой праэкт.

## Дзеля каго яны стараюцца?

(Ліст у рэдакцыю)

Да нас час ад часу прыежжаюць якія то людзі, — прывозяць з сабой „літэратуру" і раздаюць яе сялянам. Людзі гэтыя кажуць, што яны з Вільні, беларусы, нават і гавораць яны па нашаму.,.

Але вось у чым справа. Справа не ў людзях, а ў той „літэратуры," якую яны прывозяць.

Народ наш цёмны, адразу ён навет і ня зразумее ўсе тое. што пішуць вучоныя людзі ў сваіх газэтах, ці адозвах, і толькі як учытаецца хто мацнейшы, ды растлумачыць усім, толькі тады мы пазнаем што замест хлеба, прывозяць да нас цяжкія каменьня...

Напрыклад, прывязьлі да нас прад выбарамі ў Сойм „літэратуру — з Вільні — нібы то нашы беларускія газэты „Беларускія Ведамасьці" і „Беларускі Звон." Хто граматны — умее чытаць-зараз стаў праглядаць, нумары і... Божачка мой! Як усе зьдзівіліся: у газэтах чорным па беламу была надрукавана, „Беларусы, літоўцы і жыды ня ідуць на выбары ў Віленскі Сойм" „Ня слухай ашуканцаў, працуючых за марачкі польскіх паноў" „Ня вер небеларускім газэтам на беларускай мове" і яшчэ многа іншых надпісаў.

Паківалі галавамі нашы старыкі. ня ведаюць як быць, ці слухаць і рабіць так, як пішуць у газэтах, ці мець свой розум, сваю галаву... На шчасьце, прыехаў да нас знаёмы зялянадубец, і толькі зірнуў на газэты, ухімыльнуўся і кажа

— А й да вас гэтую заразу прывязлі?!"

— „Прывязлі — адказываем, але мы ні як ня зразумеем..."

— Чаго там! перэрывае ён, „Ціж вы такія ўжо цёмныя, што ня чулі, што гэтыя газэты друкуюцца ў Вільні на беларускай мове, каб лепей была-бы ашуківаць цёмны народ... Сядзіць там нявялічкая кучка авантурыстаў, адтрымлівае

